


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 8(18) • 10—16 КРАСАВІКА 1991 • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

**ПОЛЬСКІЯ ШЛЯХІ БЕЛАРУСАЎ**
Нататкі доктара гістарычных навук А. П. ГРЫЦКЕВІЧА
стар. 2—3

*Прачытайма Старога Уласа*
стар. 2

## РАДА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Дваццаць дзевятага сакавіка ў Доме літаратара адбылося чарговае пасяджэнне Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Адкрыў пасяджэнне старшыня Рады Ніл Гілевіч, які, у прыватнасці, сказаў:

— Паводле Статута Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны мы мусім праводзіць з'езд Таварыства кожныя два гады. Першы з'езд, як вы памятаеце, адбыўся ў чэрвені 1989 года. Гэтым летам нам належыць правесці другі з'езд. На ім, я мяркую, трэба пагаварыць пра вынікі двухгадовай дзейнасці ТБМ, зрабіць справаздачы пастаянных камісій.

Пасля абмеркавання гэтага пытання вырашана правесці з'езд 14—15 чэрвеня. Сакратарыяту ТБМ даручана стварыць арганізацыйную камісію па падрыхтоўцы форуму.

На пасяджэнні Рады зацверджаны новы рэдактар газеты «Наша слова» Эрнэст Ялугін.

Заслухана інфармацыя пра пастанову Савета Міністраў БССР «Аб пытанні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны». У часе абмеркавання дзейнасці ТБМ прагучалі прапановы наконт таго, якім чынам палепшыць матэрыяльнае становішча Таварыства, як з найлепшай выгодаю арганізаваць малыя прадпрыемствы.

Рада рашуча выступіла супраць таго пункту Саюзнага дагавора, дзе гаворка ідзе пра мову. Прынята рашэнне звярнуцца да Вярхоўнага Савета БССР з патрабаваннем кіравацца на тэрыторыі рэспублікі Законам аб мовах, які прыняты Беларускім парламентам.

Разгледжаны таксама розныя арганізацыйныя пытанні.

### *БЕЛАРУСКАЯ МОВА НАД АЎСТРАЛІЯЙ*

*Міхась Лужынскі, сябра Таварыства беларускай мовы з Аўстраліі, патэлефанаваў у рэдакцыю і паведаміў вельмі цікавую для нашых чытачоў інфармацыю. У Аўстраліі ў г. Сідней ужо 16 гадоў працуе этнічная радыёстанцыя, якая вядзе перадачы на 53 мовах. Кожны аўторак роўна ў адну гадзіну з 20 гадзін 15 хвілін да 21 гадзіны 15 хвілін вядуцца перадачы для беларусаў Аўстраліі. 12 сакавіка гэтага года быў 771 выпуск. Міхась Лужынскі перадаў сардэчнае прывітанне ўсім беларусам на Бацькаўшчыне і павіншаваў з надыходзячым святам — 73 гадавінай утварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.*

***Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.***

## Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча



## 2. «МАЦІ-КРАІНА»

*...што такое той «народны дух»? На ім няма ані кляйма, ані пломбы, а таму пад яго пакрыццём, канечне, будуць занасіцца ў нашу пісьменнасць і наследаванні з велікарускай ды ўкраінскай народнай паэзіі, пад уплыў каторых так лёгка падпасці, і ўласныя нікчэмныя выдумкі, і яшчэ шмат чаго.*

*Максім БАГДАНОВІЧ.*



**Максім БАГДАНОВІЧ**

* * *

Кінь вечны плач свой аб старонцы!
Няўжо жа цёмнай ноччу ты
Не бачыш, што глядзіцца сонца
Ў люстэрка — месяц залаты?

Не згасла сонца! Сонца гляне,
Усіх падыме ада сна.
Ён, гэты дзень, яшчэ настане,—
І ачуняе старана!

Я пад яе зімовай маскай —
Пад снегам — бачу твар вясны,
І вее верш мой дзіўнай казкай,
І ясны ён, як зорак сны.

1911

Максім Багдановіч. Што ён быў геніяльна адораным юнаком, пра гэта цяпер гаварыць ужо мы не баімся: быў, бо толькі надзвычайнага дару чалавеку магло аказацца пад сілу тое, што М. Багдановіч зрабіў, здзейсніў, на рубяжы здзяйснення чаго выйшаў. Яму дадзена было зрабіць яшчэ большае, яго дарога толькі пачыналася.

**Алег ЛОЙКА.**

*Выпуск вядзе Сяргей ПАНІЗНІК.*



## ДЛЯ ДУШЫ І ЦЕЛА БЛІЖНЯГА

*Шаноўная рэдакцыя, я з'яўляюся падпісчыкам «Нашага слова». Мне падабаецца змест газеты. Толькі прасіў бы друкаваць калі-нікалі што-небудзь пра рэлігію, уключаць тэксты малітваў. Гэтым, на маю думку, многім дапаможаце, асабліва маладому пакаленню, у якога цяпер шмат хістанняў і разгубленасці, выхоўваць у сабе добрыя чалавечыя якасці, стаць духоўна свядомымі, чэснымі людзьмі.*

**Мікалай РОЎБА,**
**в. Квачы Нясвіжскага раёна.**

Апошнім часам падобныя лісты ад чытачоў, дзе прапануецца друкаваць на старонках газеты тэксты Святога пісання на беларускай мове, прыходзяць пастаянна. Асабліва просяць змяшчаць малітвы на розныя выпадкі і часіны жыцця. Гэта, думаецца, не выпадкова. Вера ў камуністычную ідэю, якая прывядзе да светлай будучыні, у імя якой варта пажыць у нястачы, пакланенне ёй, па ўсім бачна, заканчвае сваё існаванне. Заканчвае і як фактар палітыкі, і як індывідуальны вопыт соцень мільёнаў людзей (Д. Драгунскі), чалавек, каб не самаразбурыцца, зноў вяртаецца душой да Бога. Даволі часта нават не таго амаль канкрэтнага, як яго вызначылі багасловы (праваслаўныя, каталіцкія, пратэстанцкія і г. д.), а хутчэй як да Ісціны, як да асяродка вышэйшых, неабходных для выжывання роду людскога маральных нормаў. Таму, звяртаючыся да Бога, чалавек звяртаецца адначасова і да самога сябе — лепшага, духоўна чысцейшага, вечнага. І перамагае. Перамагае сілы зла — хцівасць, пошасць, нястачы, хваробы. Нарэшце — вялізную адзіноту, як і няпэўнасць, незразумеласць уласнага фізічнага існавання. Знаходзіць страчаную было гармонію Дома і Сусвету. Нярэдка першым крокам на шляху да гэтага з'яўляецца малітва, прамоўленая ўласнымі вуснамі, удумліва, з адпаведным душэўным настроем, да якога сябе неабходна рыхтаваць. Малітва — гэта прага асабістай чысціні перад Богам і перад людзьмі, бліжнімі (Ю. Рапецкі), імкненне жыць па праўдзе.

Мы ў рэдакцыі ў адказ на прапановы чытачоў вырашылі працягваць публікацыю матэрыялаў рэлігійнага зместу. Прычым не будзем аддаваць перавагі нейкай адной плыні сучаснага хрысціянскага веравызнання. Урэшце, паводле Святога пісання нельга сказаць, што сам Ісус Хрыстос недзе засведчыў — вось гэтыя веруючыя няхай будуць візантыйска-праваслаўнага абраду, тыя — каталіцка-рымскага, а яшчэ нехта — адвентысты, баптысты, мармоны і г. д. Хутчэй гэта ўжо вынік пэўных гістарычных умоў чалавечага існавання. Мы не будзем браць удзел у спрэчках прыхільнікаў асобных канфесій і заклікаем усіх добрых людзей не рабіць гэтага. Каб выжыць і адрадзіцца як народу, беларусам больш чым каму неабходна еднасць і ўзаемная падтрымка. Трэба адны малітвы да Бога. Учуем жа, як яны гучаць на беларускай мове, і ўспрымем душою.

### ВЯЛІКІЯ ХРЫСЦІЯНСКІЯ ЗАПАВЕДЗІ:

1. Я ёсць Гасподзь Бог твой, хай не будзе ў цябе іншых багоў, апрача мяне.
2. Не сатвары сабе куміра, ані чагосьці падобнага да таго, што на небе-гары, што на зямлі-нізе, што ў вадзе і пад зямлёю: не пакланяйся ім і не служы ім.
3. Не прамаўляй імя Госпада Бога твайго без вялікай патрэбы на тое.
4. Шэсць дзён працуй, зрабі ўсю работу сваю, а сёмы прысвяці Богу твайму.
5. Шануй бацьку свайго і маці сваю, каб добра табе было і каб доўга жыў на зямлі.
6. Не забівай.
7. Не чыні пералюбства, не пажадай чужую жонку.
8. Не крадзі.
9. Не сведчы ілжыва на бліжняга свайго.
10. Не пажадай сабе нічога чужога, не будзь сквапны.

### СЕМ ДОБРЫХ УЧЫНКАЎ ХРЫСЦІЯНСКІХ

ДЛЯ ДУШЫ: 1. Грэшніка папраўць. 2. Хто не ўмее, таго навучыць. 3. Хто сумняваецца, даць яму добрую параду. 4. Самотнага суцешыць. 5. Беды пераносіць цярпліва. 6. Крыўды шчыра даравацъ. 7. Маліцца за жывых і памерлых.

ДЛЯ ЦЕЛА: 1. Галоднага накармі. 2. Сасмаглага напаі. 3. Голага адзень. 4. Падарожнаму дай прытулак. 5. Хворага адведай. 6. Вязню паспачувай. 7. Памерлага пахавай.

### ГРАХІ, ЯКІЯ ВЫКЛІКАЮЦЬ БОЖУЮ ПОМСТУ:

1. Забойства.
2. Скаталожніцтва.
3. Крыўджанне ўдоваў і сіротаў.
4. Нявыдача аплаты работніку.

## З рэдакцыйнай пошты

ШАНОЎНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Я з вялікім задавальненнем даведаўся, што ёсць людзі, якія спрабуюць зрабіць беларускі касцёл. Вырашыў падзяліцца з вамі навінамі з г. Магілёва.

Сярод каталікоў нашага горада існуе пэўная колькасць моладзі, якая жадае, каб набажэнства вялося на беларускай мове. Упершыню беларускую мову ў імшы выкарыстаў ксёндз Уладзіслаў 3 лістапада 1990 г. у час асвячэння крыжа на месцы забойстваў жыхароў горада ў сталінскі час.

11 лістапада ў капліцы на польскіх могілках адбылася першая імша па-беларуску ў гонар І. Кунцэвіча. Прысутнічала каля 200 вернікаў. Наступная імша адбылася 24 снежня. У той жа дзень ля касцёла Св. Станіслава намаганнямі вернікаў быў пастаўлены спектакль ці містэрыя «Нараджэнне Хрыстуса» на беларускай мове для жыхароў горада. На працягу студзеня — лютага сістэматычна адбывалася імша на беларускай мове. Кожны раз прысутнічала 50—60 вернікаў.

У тым, што мовай імшы становіцца беларуская, асаблівая заслуга Наталлі Цярэшчанкі і Ганны Стара. Цяжкасць у тым, што многія вернікі не ведаюць спеваў па-беларуску. Таму пры касцёле створаны хор, ім кіруе Янка Мядзведзеў, які перакладае спевы з іншых моў на беларускую. Рэпетыцыі адбываюцца двойчы на тыдзень. Веруючыя вывучаюць і спяваюць духоўныя спевы па-беларуску.

З павагай і Богам у сэрцы
Ігар ПУШКІН,
сябра суполкі беларусаў «Машэка», г. Магілёў.

* * *

### Я — за лацінку!

Я не мовазнаўца, але насмелюся выказаць свае сціплыя погляды на гэтае пытанне. Лічу, што, як мінімум, неабходна вярнуцца да пісьма, якое было да рэформы 33-га года. Відавочна, што гэтая рэформа была здзейснена ў ідэалагічных мэтах, каб гвалтоўна наблізіць нашу мову да расейскай. У выніку вуснае маўленне беларусаў згубіла мяккасць, мілагучнасць, прыгажосць — яно агрубела. Дастаткова параўнаць, як гавораць беларусы-эмігранты і дыктары беларускага тэле-радыё...

Я за тое, каб перайсці на лацінку. Лацінка ўжывалася ў нашай мове на працягу некалькіх стагоддзяў і займае годнае месца ў літаратуры і гісторыі Беларусі. Мне здаецца, што лацінка больш адпавядае гукаваму ладу нашай мовы і дае больш магчымасцей адлюстроўваць на пісьме ўсе моўныя тонкасці: Калі разглядаць Адраджэнне як працэс вяртання Беларусі ў Еўропу, працэс вяртання беларусам еўрапейскага светапогляду, то трэба сказаць, што лацінка цалкам паспрыяе гэтаму працэсу. Асноўны контраргумент той, што лацінка павялічыць польскі ўплыў на Беларусі. Але сёння куды важней выратаваць край ад русіфікацыі. І гэтаму лацінскі алфавіт паспрыяе, бо захавае нашу мову ад змяшэння з расейскай, выб'е грунт з-пад ног тых, хто лічыць нас «русским племенем», а нашу мову «исковерканным русским языком», «наречием» і г. д.

Абараніць Бацькаўшчыну ад чужых уплываў павінны незалежная дзяржаўная палітыка, наша высокая самасвядомасць, нацыянальная сістэма адукацыі.

Аляксей ШАСТАКОЎ.

* * *

*Уладзімір* **ПЕЦЮКЕВІЧ**

### АДРАЧЭНЦУ

*Ад мовы матчынай адрокся —*
*Ці ты ўжо сын сваёй зямлі?*
*Тваё жыццёвыя палосы*
*Травой курганнай парaслі.*

*Сябе самога ты забойца:*
*Забіў душу сваю — о жах! —*
*Ні ясных зорак, ані сонца,*
*Ні поля ў важкіх каласах.*

*Ні песень жніўных, ні купальскіх,*
*Ні казак-быляў, ані-ні,—*
*Таго, што з матчынае ласкі*
*Узрасціла нашы карані.*

*Усё прапала: вера, вернасць,*
*Дзядоў магілы, родны кут.*
*Няма на макавае зерне*
*Ні ўцехі шчырай, ні пакут.*

*Адна турбота: як кішэні*
*Набіць тужэй, сабраць вяршкі...*
*Няўжо не чуеш, адрачэнец,*
*Твой прад Айчынай грэх які?*

Чыталі? Чыталі?

*Анатоль* КЛЫШКА

# ПРАЧЫТАЙМА СТАРОГА УЛАСА

Летась выйшаў у «Мастацкай літаратуры» гэты сціплы зборнік Старога Уласа «Год беларуса». У ім упершыню сабрана пад адной вокладкаю ўсё тое, што пісаў паэт-самавук з Валожына Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі,— вершы, вершаваныя апавяданні, допісы ў газету «Наша Ніва». На адвароце тытульнай старонкі пазначана: «Укладанне, падрыхтоўка тэксту, уступны артыкул і каментарыі Вячаслава Рагойшы». І ўяўляю, колькі за гэтымі словамі схавалася працы: сабраць раскіданае па розных выданнях — газетах, календарах, чытанках, перадрукаваць, адабраць лепшае, падшукаць адпаведны ілюстрацыйны матэрыял, укласці... Прывяду тут імёны тых, каму шчыра дзякуе В. Рагойша за дапамогу,— Генадзю Каханоўскаму, краязнаўцу Генадзю Равінскаму, бібліёграфу Ніне Ляшкевіч.

Біяграфія паэта-самавука небагатая на вонкавыя падзеі. Нарадзіўся 10(23) сакавіка 1865 года ў сялянскай сям'і. У дзевяцігадовым узросце — круглы сірата. Спачатку працуе кухцікам у графа Тышкевіча, пасля ўзбіваецца на кухара, далей — аб'ездчык, нарэшце, ляснічы. У 1934 годзе пасля больш як саракагадовай службы атрымаў кавалак зямлі на Віленшчыне, дзе і памёр 30 верасня 1939 года ад запалення лёгкіх.

Як цікавыя чалавечыя падрабязнасці з жыцця можна яшчэ нагадаць, што ён пазнаёміў у Вільні Янку Купалу з яго будучай жонкаю Уладзіславай; аддана спрыяў пашырэнню асветы: палавіну сваёй хаты адпусціў пад вясковую школу, у якой, дарэчы, вучылі па-беларуску. Яго ўласная бібліятэка была заўсёды адчынена для сялян.

В. Рагойша ў сваёй прадмове цікава прыкмячае пра Старога Уласа: «Чалавек глыбока рэлігійны, які ва ўсіх жыццёвых сітуацыях звычайна кіраваўся пастулатамі дзесяці запаведзяў, ён стараўся не ўмешвацца ў палітыку, жыць па законах агульначалавечай маралі. Як у жыцці — гэтак і ў творчасці. На вяку Старога Уласа ўлада мянялася каля дзесяці разоў. Пражыўшы большую палову жыцця пры цары, паэт з'явіўся сведкам Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 года, акупацыі беларускіх земель войскамі кайзераўскай Германіі, легіянерамі Пілсудскага, дажываў век у міжваеннай Польшчы, перад самаю смерцю сустрэў прыход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь... Здавалася б, колькі тэм для паэта-патрыёта! Аднак у вершах Старога Уласа — нават напісаных для «хатняга ўжытку», не друкаваных — мы не знойдзем прамога водгаласу ніводнай з гэтых падзей».

Мастацкую вартасць творчасці Старога Уласа трапна акрэсліў яшчэ Максім Гарэцкі: «Яго творы цэнны для нас і арыгінальны тым, што паказваюць, як творыць сам народ. Нічога інтэлігенцкага ў іх няма, яны й не вельмі часам складны, але чуецца ў іх сіла самое зямлі, беспасрэдны павеў самога жыцця беларускай вёскі. Яны — натуральны адростак народнай паэзіі, казак і гутарак, легенд, жартаў...»

В. Рагойша, кажучы пра паэму «Год беларуса», згадвае тыпалагічна падобны твор класіка літоўскай літаратуры Крысціёніса Данелайціса «Чатыры пары года». Мне хацелася ўспомніць — таксама для тыпалагічнага параўнання — першага сялянскага паэта Еўропы Гесіёда, яго паэму «Работы і дні», якую таксама, мажліва, не чытаў наш пясняр,— каб сцвердзіць адзіны спрадвечны покліч зямлі... І калі б пісаў гэтую нататку для літаратурнага выдання, пастараўся б паказаць канкрэтную пераклічку Старога Уласа з Янкам Купалам. А для чытачоў «Нашага слова» спынюся на іншым.

Чытаю, чытаю гэты зборнік з алоўкам, каб не ўпусціць цікавага слова, якога не чуў або даўно не чуў. Бо ведаю: гэта будзе не прыдуманае слова, каб «узбагаціць» нашу «бедную» мову, а тое, сапраўднае, якім не напаказ гаварылі, калі часам і падзабылі сёння. «Як свет — на поле, з цёмным — дахаты». І нібы чую голас сваёй маці. *«Прагнала смагу», «акурат пад гэты час»*... І не трэба ні ***імення***, ні ***менавіта***, без якога сёння, здаецца, не абыходзіцца ніводзін прамоўца. Аднаго зыходнага паходжання словы — ***імення*** з Усходу, ***менавіта*** з Захаду — глушаць даўно абжытыя ў нашым народзе ***якраз, акурат: якраз (акурат)*** *у гэты час.*

Сапраўды, якая натуральная мова Старога Уласа, як лёгка выказвае яна самыя розныя «сучасныя» ўзаемадачыненні: *Далі задатку і плацілі рату па раскладцы, а ў сёлетнім гаду трэба было ўносіць рэшту грошай, што цяпер усё больш і больш калькуюць у нас з рускай».*

У гэтай мове жыве добры гумар, іронія: *«адвакацікі сваёй гадоўлі»*. А ў сённяшній самагонкі ёсць яшчэ адзін сінонім — саматужка (*«...Выпілі даволі крэпкай саматужкі»*).

А паслухайце хоць бы, якія пластычныя — усе ў дзеясловах! — гэтыя «перуны» ў допісе Старога Уласа ў «Нашу Ніву»: *«Адзін пярун* ***ударыў*** *у валожынскую каталіцкую капліцу і па дроце ад званка* ***ўляцеў*** *усярэдзіну, дзе* ***выдзер*** *кусок сцяны і* ***пайшоў*** *у зямлю. Другі —* ***ударыў*** *у рабінаў дом, праз комін* ***упаў*** *у хату,* ***рассадзіў*** *там печ і,* ***разбіўшы*** *акно,* ***вылецеў*** *на двор, нікога не* ***зачапіўшы****».*

Малады беларускі празаіку! Завучвай на памяць такія кавалкі — кажу не ў крыўду: не цураўся гэтага і Аляксандр Твардоўскі, які мог чытаць з памяці слова ў слова цэлыя старонкі рускай класічнай прозы...

Сустракаю тут, як і ў іншых нашых дарэвалюцыйных пісьменнікаў, слова «машына» яшчэ ў значэнні цягніка (*«...На дзень прыходзіць* ***машына,*** *Цягне многа вагонаў»*).

Напаткаў я і слова «апрануць» (якое, як вядома, звязана з верхнім адзеннем, бо ў нашай мове няможна, напрыклад, апрануць **майку**, хоць такімі словазлучэннямі падчас грашаць некаторыя перыядычныя выданні) тут у цікавым кантэксце: «апрані рукавіцы» («Год беларуса»).

Не даводзілася мне чуць раней слова «крыжык» у значэнні дзесятка гадоў: *«Жыла адна бабулька сабе адзінока. Сёмы* ***крыжык*** *канчала, помніла «паўстанне»*.

Або чытаю ў «Годзе беларуса»: «Наступіць жніва і сенаванне». Не люблю газетнае «сенаўборка» — як зламаны прычэп. У нас жа ў народзе ёсць і сенаванне, і сенавацъ, і іншыя ёмкія ўтварэнні, якія, кажучы словамі Чорнага, варты добрага пяра,— пашырэння ў літаратурнай мове.

Знайшоў яшчэ адзін адпаведнік рускаму фразеалагізму «в костюме Адама и Евы» (нагишом, без всякой одежды) — «у прапрадзедаўскім уборы»...

Можа, і такімі згадкамі зацікавіў вас гэтым зборнікам?

Дык прачытайце Старога Уласа!

# ПОЛЬСКІЯ ШЛЯХІ БЕЛАРУСАЎ

У канцы мінулага года я наведаў Беласточчыну. Беластоцкая філія (філіял) Варшаўскага універсітэту запрасіла мяне для ўдакладнення магчымасці супрацоўнічаць у вывучэнні гісторыі беларуска-польскага пагранічча, а таксама для лекцый па гісторыі і гістарыяграфіі Беларусі. Працаваў я і ў бібліятэках Беластока і Любліна. З нагоды паездкі ў Беласток сустракаўся і з польскімі вучонымі Беластоцкай філіі, Люблінскага каталіцкага універсітэту і Торуньскага універсітэту, выступаў у Люблінскім і Торуньскім навуковых таварыствах, чытаў лекцыі для студэнтаў і выкладчыкаў універсітэтаў. Усе лекцыі былі на польскай мове. І выкладчыкі, і студэнты задавалі шмат пытанняў пра сучаснае становішча на Беларусі, пра каталіцкую царкву на Беларусі, пра палякаў, якія жывуць у нас. Але заўсёды быў, як кажуць, надзвычайны інтарэс да сустрэчы маёй з папам рымскім Янам Паўлам II у мінулым годзе. Можна сказаць, гэта было каронкае пытанне.

Люблінскі каталіцкі універсітэт з'яўляецца цэнтрам навуковых даследаванняў па духоўнай культуры народаў Усходняй Еўропы. Таму сустрэчы з прафесарам Ежы Клачоўскім былі прысвечаны падрыхтоўцы новай навуковай канферэнцыі па гэтай праблеме (разам з доктарам філалагічных навук Адамам Мальдзісам, які быў у гэты час у складзе дэлегацыі БССР на сесіі Генеральнай асамблеі ААН у Нью-Йорку, я з'яўляюся членам аргкамітэту па скліканню такіх канферэнцый); папярэдняя праводзілася ў Рыме ў мінулым годзе. Былі абмеркаваны галоўныя накірункі навуковай праблематыкі наступнай канферэнцыі. Прафесар Ежы Клачкоўскі з'яўляецца таксама членам сената Польскай рэспублікі, членам Камісіі па замежных справах сената і Еўрапейскай камісіі ЮНЕСКА. Таму ягоная пазіцыя была не толькі навуковай, а ў пэўнай ступені афіцыйнай.

Увогуле трэба дадаць, што шырокія колы польскай інтэлігенцыі пачалі вельмі цікавіцца Беларуссю і яе палітычным становішчам пасля непадпісання ў кастрычніку 1990 г. у Мінску пагаднення паміж Беларуссю і Польшчай. Я прывёз з Беластоку часопіс «Плюс», на вокладцы якога змешчаны малюнак: з Беларусі праз дзяржаўную мяжу на Беласток імчацца Пагоня, пярэднія капыты каня ўжо на тым баку мяжы.

Не ведаю, што хацела сказаць тым самым рэдакцыя часопіса. Але трэба адзначыць сапраўды актыўнасць беларускіх дэлегацый у апошнім квартале мінулага года — і эканамічную, і культурную, і асветніцкую. Яшчэ на пачатку кастрычніка дэлегацыя Мінскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны адведала Беласточчыну. Акрамя сустрэч з прадстаўнікамі Беларускага культурна-грамадскага таварыства, дзе вялікай актыўнасцю вылучаецца Віктар Стахвюк, наша тэхнічная група вяла гаспадарчыя перамовы з войтамі гмін (валасцей) Усходняй Беласточчыны, населенай амаль цалкам беларусамі, аб продажы чыстай (не забруджанай радыяцыяй) сельскагаспадарчай прадукцыі для Мінска ў абмен на продаж сельскагаспадарчай тэхнікі сялянскім гаспадаркам Беласточчыны. Быў падпісаны пратакол аб пагадненні. Яшчэ-тады для Міністэрства замежных спраў БССР была складзена даведка пра становішча беларусаў на Беласточчыне, якую перадалі ў міністэрства перад перагаворамі міністра замежных спраў БССР П. К. Краўчанкі з польскім міністрам замежных спраў Скубішэўскім. Ужо пад час майго другога побыту ў Беластоку ў канцы лістапада прыехала група дэпутатаў Мінскага гарадскога Савета на чале з яго старшынёй А. Герасіменкам і першым наменнікам старшыні А. Гурыновічам і некалькі членаў Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны на чале са старшынёй Камісіі па культуры Мінскага гарсавета, наменнікам старшыні Мінскай гарадской рады ТБМ І. М. Чарняўскім. Размовы вяліся аб больш цесных сувязях, у тым ліку і гаспадарчых, паміж Мінскам і Беластокам. У гэты ж час заканчваўся месячнік беларускага кіно ў Беластоку. На заключным этапе ў Беласток прыехалі кінарэжысёр Ул. Колас і аператар Л. Слобін. Словам, сувязі паміж БССР і Беластоцкім ваяводствам, і перш за ўсё з яго ўсходнімі, беларускімі гмінамі, мацнеюць і маюць усё больш абяцаючыя перспектывы.

Тое ж самае можна сказаць і пра нацыянальныя беларускія арганізацыі ў Польшчы, цэнтры якіх, натуральна, знаходзяцца ў Беластоку, бо ў гэтым раёне знаходзіцца большасць беларусаў. Гэта перш за ўсё Беларуская грамадска-культурнае таварыства, якое існуе з 1956 г. і цяпер падпарадкоўваецца Міністэрству культуры і асветы (раней падлягала Міністэрству ўнутраных спраў) і атрымоўвае ад яго датацыі. Гэта арганізацыя, галоўным чынам, культурна-асветніцкага характару са сталымі пазіцыямі і традыцыямі. Узначальвае яе доктар філалогіі Аляксандр Баршчэўскі (паэт Алесь Барскі), загадчык кафедры беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце.

На пачатку мінулага года стварылася Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне (БДА), палітычная партыя беларускага насельніцтва ў Польшчы з нацыянальна-дэмакратычнай праграмай. Яна вылучала кандыдатаў у сейм і сенат Польшчы, правяла пэўную колькасць дэпутатаў у мясцовыя органы кіравання. Узначальвае яе беларускі пісьменнік Сакрат Яновіч. Гэтая партыя выступае за ўстанаўленне больш цесных кантактаў з Савецкай Беларуссю, выступае ў абарону правоў беларускага насельніцтва ў Польшчы (напрыклад, супраць звальненняў з працы беларусаў у Бельску-Падляскім, супраць паліавання праваслаўных цэркваў фанатыкамі, супраць планаў перасялення беларусаў у заходнія ваяводствы Польшчы і засялення прыграўнічнай з Беларуссю тэрыторыі польскімі перасяленцамі). Партыя дзейнічае рашуча і

# Беларускі каляндар

На пачатку гэтага года вяртаўся я ў Мінск, садзіўся на аўтобус у маленькім мястэчку амаль на старой мяжы, што падзяляла Беларусь да 39-га года. Ужо ўзяў білет і цярпліва чакаў свайго аўтобуса. У пачакальні вакзала людзей было няшмат, усяго чалавек пяць ці сем, іх то меншала, то большала — заходзілі, бралі білеты, выходзілі.

На лаўцы ля акна сядзелі два мужчыны: адзін стараваты, сівы, у чорным кароткім кажусе і ў валёнках, другі — маладзейшы, у новай фуфайцы і ў кірзавых ботах. Круціліся два маладыя хлопцы, яшчэ пару жанчын сярэдняга веку моўчкі сядзелі ля сваіх сумак і клункаў.

І тут зайшла ў пачакальню невысокая стараватая жанчынка ў плюшаўцы і бурках, пратупала да лаўкі, паставіла на падлогу сваю чорную, сярэдняй велічыні, сумку і, цяжка ўздыхнуўшы, села побач з дзядзькам у фуфайцы. Відаць, яны былі знаёмыя, бо тут жа пачалася размова.

— Гэта ж во купіла каляндар, хай будзе ў хаце, — сказала жанчына як сама сабе, а хутчэй за ўсё — да дзядзькі ў фуфайцы.

Дзядзька тут жа адклікнуўся:

— Каляндар, кажаш? І ў мяне няма. Дзе ён прадаецца?

— Ды во тут блізка, прайсці трохі, у магазіне, дзе кніжкі, — і яна паказала рукою напрамак.

— Пайду куплю, — сказаў дзядзька і ўстаў з лаўкі, узяўся за свае дзве сумкі, ды добра напакаваныя.

Каляндар зацікавіў і мяне. Я ведаў, што выйшаў з друку — першы ў БССР! — адрыўны беларускі каляндар на гэты год, я нават трымаў яго ў руках — мне паказаў яго шчаслівчык, які яго купіў: тыраж невялікі, не ўсе змогуць яго набыць. Я падумаў, што можа тут прадаюць беларускія календары, і спытаўся ў цёткі, які каляндар:беларускі ці рускі?

— А хто яго ведае, які ён. Мне абы каляндар.

І яна нагнулася да свае сумкі, пакорпалася там у сваіх пакупках і дастала невялікі тоўсты адрыўны каляндар — я адразу заўважыў, што не беларускі, бо той большага фармату і нават таўсцейшы за нашы «рускія» календары, да якіх мы прывыклі.

Я ўзяў каляндар у рукі, механічна пагартаў і вярнуў яго цётцы.

— Не, гэта не беларускі, — расчаравана сказаў я.

Яна як бы пашкадавала, што не дагадзіла мне, і сказала амаль тое, што і на пачатку гутаркі.

— Мне дык усё роўна, абы дзень паказваў — калі святы, калі будзень.

Такая абыякавасць абурыла мяне.

— А мне, бачыце, не ўсё роўна. Я сам беларус, і хачу мець каляндар на сваёй мове. Як маюць яго рускія, украінцы, літоўцы, — сказаў я цётцы ў адказ на яе заўвагу.

— Ат, нейкія выдумкі, — умяшаўся сівы дзядзька ў кажусе, які сядзеў непадалёку ад кабеты. — Нешта раней мы не думалі пра тое, рабілі работу і болей мелі, як цяпер. Ні пра якія мовы не ведалі.

— А калі гэта было, за якім часам? — спытаўся я ў дзядзькі.

— Ды пры панах... Ды і пасля вайны, — дадаў дзядзька, падумаўшы. — Пра мову ніхто надта не разводзіў гавэнды.

— Тут розныя рэчы — пры панах і ў нас пасля вайны, — запярэчыў я дзядзьку. — А калі падумаць, то і блізкія... А пра мову гаварылі і думалі, толькі не ўсе. Пры панах беларусы за яе ў турмах сядзелі... А пасля вайны амаль тое самае паўтарылася. Ад роднае мовы людзей прымушалі адракацца, казалі, што адна мова пры камунізме будзе — руская. Астатнія ўсе непатрэбныя, яны адамруць і самі адпадуць.

— А каб адна, то мо і цішэй на свеце было б, — уставіла цётка, — а то такая калатэча ідзе, што ажно жыць страшна.

— Якраз гэта не з-за таго, што моваў шмат, — не згадзіўся з ёю я.

— Колькі народаў, гэтулькі павінна быць і моваў. А некаторым гэтага не хочацца. Яны ўсё яшчэ збіраюцца зліваць іх у адну, а людзі з гэтым не хочуць мірыцца. Вось таму і ідзе калатэча. Кожны народ трымаецца свае мовы.

— А чаго за яе трымацца? — зноў загаварыў дзядзька ў кажусе. — Па мне дык я даўно згадзіўся б.

— А чаму ж вы самі гаворыце па-свойму, па-беларуску? — спытаўся я ў дзядзькі, стараючыся заставацца спакойным.

— Дык я няграматны, цёмны, а во мае дзеці ці ўнукі з Мінска як прыязджаюць, то шпараць па-гарадскому...

— У тым наша і бяда, што мы сваё блытаем з чужым, а чужое — са сваім. Ніхто нас не вучыў разбірацца, зацямнялі нам розум.

Я абвёў вачыма пачакальню, хацеў, каб хто-небудзь памог мне «прыперці да сцяны» ўпартага дзядзьку, але ўсе, хто быў, трымалі «нейтралітэт» — ціха маўчалі, мо ў душы нават насміхаючыся з мяне, які тут раптам захацеў аднавіць правы сваёй мове.

Зноў загаварыла цётка ў плюшаўцы.

— Раней паны гаварылі па-польску, а слугі па-простаму, па-беларуску. І неяк абыходзіліся, мірыліся. А цяпер... усе панамі хочуць быць, сваё права правіць...

Яе цяжка было зразумець — у які бок яна верне: ці да прымірэння між рознымі народамі за кошт страты мовы слабейшага, ці да роўнасці ўсіх моваў, каб ні адна з іх не была «панскаю».

— Тут мо не панамі, як вы кажаце, а гаспадарамі ў сваім доме. Кожны абараняе сваё, бо яно даражэйшае за чужое. І асабліва яно дарагое тады, калі яго ў нас забіраюць...

— А што ў нас хто забірае? — здзівіўся дзядзька.

— Як што? — здзівіўся я ад яго пытання. — А родную мову ў вашых дзяцей ужо забралі? Ужо яны з вамі гавораць па-гарадскому, па-руску.

— Ат, — махнуў рукою дзядзька. — Мова — не кілбаса ці хлеб. Без яе можна абысціся.

— Ой, не кажыце! — заспрачаўся я. — Якраз мова — гэта наш хлеб, хлеб нашае душы... Калі забяруць у нас гэты хлеб, калі мы яго аддамо самі, нашы душы засохнуць, мы памром, як народ...

Колькі яшчэ мы спрачаліся б, невядома, але тут па радыёрупары аб'явілі, што адпраўляецца аўтобус на Мінск — якраз мой. Я развітаўся з людзьмі, не ведаючы, ці пераканаў іх хоць трохі.

Ехаў у Мінск і ўсю дарогу думаў: як цяжка будзе нам прыйсці да разумення таго, што родная мова — наш найбольшы скарб, без якога мы ніхто і нішто!

Чым не сюжэт для невялікага апавядання?

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ.

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

КРАСАВІЦКІ нумар часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе», які хутка выйдзе ў свет, вялікую колькасць старонак прысвячае маладой беларускай паэзіі. У ім друкуецца заканчэнне грунтоўнага артыкула крытыка А. Бельскага «Крылы маладосці» — на гэты раз аналізуецца творчасць А. Сыса, С. Сокалава-Воюша, С. Адамовіча, М. Скоблы ды некаторых іншых маладых паэтаў. Падаецца і спіс кніг пачаткоўцаў на літаратурнай ніве, якія выдаваліся на Беларусі ў апошнія гады. Пераклікаецца з гэтым артыкулам і распрацоўка ўрока-лекцыі Н. Шушкевіч па сучаснай беларускай паэзіі. У публікацыі разглядаецца творчасць маладых паэтаў В. Шніпа, Э. Акуліна, С. Шах, Л. Забалоцкай, В. Яраца, Л. Рублеўскай.

Аб творчасці пісьменнікаў старэйшага пакалення — Івана Чыгрынава, Леаніда Дайнекі — можна прачытаць адпаведна ў артыкулах А. Марціновіча «Прага чалавечнасці» (друкуецца з працягам), К. Сідзельнікавай «Мне ў душу стагоддзяў глянуць хочацца...» (гэта распрацоўка чытацкай канферэнцыі па гістарычным рамане «Меч князя Вячкі»).

Сотым угодкам М. Багдановіча ў чацвёртым нумары прысвечаны артыкул Г. Малажай «Светлы след Максіма Багдановіча ў гісторыі беларускай мовы», бібліяграфічная падборка літаратурных прац, якія ўтвараюць своеасаблівы вянок песняру.

Іван ЖДАНОВІЧ,
адказны сакратар рэдакцыі часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе».

# Учуць роднае слова

«Наша слова» загаварыла аб працы Тэрміналагічнай камісіі ТБМ імя Ф. Скарыны. Падказала газета і пэўную бібліяграфію пошукаў патрэбных слоў па розных галінах ведаў. Па адной са сцежак у такіх пошуках паспрабаваў прайсці і я. Мяне цікавіла ваенная тэрміналогія. Пакуль у друку абмяркоўваюць пытанне: быць ці не быць нацыянальнаму войску... Дык вось тым часам, мне здаецца, варта пагаварыць пра вайсковую тэрміналогію. У дваццатыя гады яна існавала і, заўважым, плённа развівалася. Гісторыя захавала для нас — не вельмі чуйных нашчадкаў — «Практычны беларускі вайсковы слоўнік. Частка 1-я (расейска-беларуская)». Ён укладзены М. Байковым і В. Бараноўскім, а падрыхтаваны да выдання Вайсковай Камісіяй пры Інстытуце беларускай культуры. Шмат хто са знакамітых людзей прымаў удзел у стварэнні слоўніка, яго рэдагаванні. Уражвае факт удзелу ў гэтай працы Язэпа Дылы і Янкі Купалы. Што адметнага ў слоўніку? Мне здаецца, найпершы здабытак слоўніка — магчымасць, дзякуючы яму, гаварыць пра вайсковыя справы па-беларуску (а не здымаць кальку з рускага адназоўніка, што зараз у большасці выпадкаў і робіцца). Услухайцеся ў моўныя знаходкі: авиация — лётніцтва, аграрий — абшарнік, аквариум — воднік, аллюр — гон, амуниция — аснада, артиллерия осадная — артылерыя аблажная, аудиенция — прыймо, беглый огонь — шпаркі агонь, боек ударника — галоўка іглiцы, бомбардировка — бамбаваньне і іншыя.

Вядома, не трэба ідэалізаваць згаданую працу Байкова і Бараноўскага, бо даследчыкі былі на пачатку дарогі.

У дваццатыя гады і на пачатку трыццатых па-беларуску выдаваліся невялікімі тыражамі (а як на сённяшні час, то велізарнымі накладамі ў пяць-шэсць тысяч экземпляраў) і спецыяльная вайсковая літаратура. У асноўным сектар вайсковай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі прапанаваў пераклады з невялікім памерам рускіх кніжачак, брашур, адрасаваных чырвонаармейцу (перакладчыкам у большасці выпадкаў быў адзін з аўтараў — М. Байкоў). Лічу, папершае, што ў моўных яго пошуках ад кнігі да кнігі багацела тэрміналогія. Па-другое, пазбаўляючыся калькі, слова набліжалася да народных вытокаў, яднаючы літаратурныя традыцыі і крынічныя моўныя карэнні. Да таго ж, спецыяльныя брашуры і кнігі цікавы тым, што паказваюць ваенныя тэрміны ў дзеянні. Таму, ствараючы нанова беларускую вайсковую тэрміналогію, варта іх выкарыстоўваць.

Нядоўгім быў час адраджэння Беларусі на пачатку нашай сацыялістычнай гісторыі. Нядоўгім быў клопат і пра беларускасць войска. А яшчэ карацейшым быў клопат аб сапраўднай роднай мове. У 1933 годзе выдаецца новы ваенны руска-беларускі слоўнік. Няма сярод аўтараў-укладальнікаў ні Байкова, ні Бараноўскага. Адна з мэт гэтага слоўніка — «...пазбавіцца паланізмаў, што імкнуліся ўкараняць у армію нацдэмы, выходзячы з класавых буржуазна-рэстаўратарскіх тэндэнцый, сваім «Практычным беларускім вайсковым слоўнікам»... І гартаючы слоўнік 1933 года, бачыш, як гублялася, забівалася слова, роднае беларускае слова. Самімі ж беларусамі.

Дык ці знойдзем у сабе сілы зазірнуць у слоўнік Байкова і Бараноўскага?..

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

ў іншых палітычных пытаннях. Так, падчас прэзідэнцкіх выбараў у лістападзе-снежні 1990 г. дзесяць усходніх гмін у Беластоцкім ваяводстве галасавалі супраць кандыдатуры Леха Валэнсы (да 90 працэнтаў супраць яго), аддаўшы свае галасы ў першым туры за кандыдата сацыял-дэмакратычнай партыі (г. зн. былой аб'яднанай рабочай, камуністычнай) Цімашэвіча, а ў другім туры — за антаганіста Валэнсы Тымінскага. Гэтыя абставіны прымусілі Валэнсу пасля яго выбрання прэзідэнтам звярнуць увагу на Беластоцкае ваяводства і праблему беларусаў і адносін да іх улад.

А трэба заўважыць, што ў палітыцы, як у Польшчы называюць, посткамуністычнага (паслякамуністычнага) ураду праяўлялася антыбеларуская тэндэнцыя. Так, як і раней, беларускія ліцэі ў гарадах Гайнаўцы і Бельску-Падляскім толькі па назве беларускія. Усё выкладанне для дзяцей-беларусаў вядзецца на польскай мове. І толькі для тых вучняў, якія добраахвотна хочуць (або іх бацькі пішуць заявы аб гэтым), вядуцца заняткі раз у тыдзень па беларускай мове і беларускай літаратуры. Карацей кажучы, палітыка паланізацыі, апалячвання праводзіцца даўно. Маўляў, адзіная дзяржава, то і мова павінна ва ўсіх быць адзіная. Гэта вельмі нагадвае аналагічную палітыку ранейшых часоў (ды і цяпер) у БССР. Але самае непрыемнае, што і ў Польшчы шматлікія беларусы на Беласточчыне, запісаўшыся палякамі, цураюцца сваёй роднай мовы і, больш таго, калі займаюць кіруючыя пасады, самі праводзяць гэтую паланізацыйную палітыку. І там ёсць свае нацыянал-нігілісты, якія заклікаюць беларусаў гаварыць «на нормальном, человеческом языке», у дадзеным выпадку на польскай мове.

Адным з асяродкаў барацьбы за захаванне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў у Польшчы з'яўляецца Польская аўтакефальная праваслаўная царква, самастойная праваслаўная царква, працоўнай мовай якой з'яўляецца руская (не беларуская, і не ўкраінская) мова. Яна аб'ядноўвае праваслаўных грамадзян Польшчы — беларусаў, украінцаў, рускіх. Частка святароў гаворыць па-беларуску, асабліва тыя, хто знаходзіцца ў беларускіх вёсках. Адна з епархій гэтай царквы — Беластоцка-Гданьская з цэнтрам у Беластоку. Мяне прыняў архіепіскап беластоцка-гданьскі Сава, яшчэ малады, энергічны і адукаваны іерарх царквы, які ведае, што я займаюся гісторыяй царквы на Беларусі. Напярэдадні нашай сустрэчы тагачасны прэзідэнт Польшчы В. Ярузэльскі надаў яму тытул прафесара: архіепіскап Сава з'яўляецца прафесарам тэалагічнай акадэміі ў Варшаве, у якой рыхтуюць святароў і пастараў некаталіцкага веравызнання, у тым ліку і праваслаўных. Наша размова напярэдадні была разлічана на паўгадзіны, а працягнулася на гадзіну і пятнаццаць хвілін. Яна была змястоўнай і цікавай. Я таксама наведаў некалькі праваслаўных цэркваў.

Цікавай была сустрэча з актывам беларускай інтэлігенцыі ў Варшаве і асабліва ў Гайнаўцы, горадзе з насельніцтвам у 25 тысяч чалавек, у раёне Белавежскай пушчы. У Гайнаўцы былі і пытанні, якія закранаюць і палітыку Вярхоўнага Савета, урада БССР, мясцовых органаў улады (асабліва ў Гродзенскай вобласці), Кампартыі Беларусі і Беларускага народнага фронту. Асноўныя прэтэнзіі да гэтых органаў і арганізацый былі: нацыянальная і культурная палітыка, адносіны да рымска-каталіцкай царквы і каталіцкай царквы ўсходняга абраду (уніяцкай). Палеміка была бурнай, і спрэчкі са мною зацягнуліся да позняга вечару. Асноўны змест іх — навошта вы (усе памянёныя органы і палітычныя арганізацыі) падтрымліваеце каталіцкую царкву? Трэба падтрымліваць толькі праваслаўную. Калі скончыцца палітыка русіфікацыі ў школах і вышэйшых навучальных установах, у культурных установах і г. д.? Пераканаць размоўцаў было даволі цяжка і ў неабходнасці разважлівай рэлігійнай палітыкі, якая заснавана на праве кожнага верніка на сваю канфесію, і ў неабходнасці аднолькавых адносін да кожнай з хрысціянскіх цэркваў, іншых хрысціянскіх плыняў і іншых веравызнанняў, такіх, як іудаізм і мусульманства. Прыйшлося прыводзіць прыклады з гісторыі і культуры, называць католікаў Каліноўскага, Янку Купалу і інш.

Былі і маргінальныя выказванні. Так, адзін стары чалавек, украінец, як ён адрэкамендаваўся, на чыстай рускай мове прапанаваў усім дэмакратычным арганізацыям і рухам Беларусі... далучыцца да маскоўскага таварыства «Памяць», якое адно аб'ядноўвае пад сваім сцягам рускіх, украінцаў і беларусаў у агульную славянскую еднасць з адзінай рускай мовай і культурай. Не ведаю, можа хто з вялікай ахвотаю скарыстае гэтую параду. Ва ўсякім разе думаю, што прыхільнікаў гэтая прапанова русіфікацыі знойдзе ў нашай рэспубліцы, як знаходзіла раней.

Напаследак хачу прывесці вельмі цікавы факт, сведчанне ўдзельніка падзей 1939 года. 6 снежня 1990 года пасля маёй лекцыі для выкладчыкаў і студэнтаў Торуньскага універсітэта (а асноўнымі кадрамі пры стварэнні гэтага універсітэта ў 1945 г. былі выкладчыкі і супрацоўнікі былога Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя) выступіў пан Станіслаў Васілеўскі і расказаў, што ў верасні 1939 г. ён, тады яшчэ зусім малады чалавек, працаваў у Віленскай гарадской управе (магістраце). У 20-х чыслах верасня, пасля таго, як Вільня была занята Чырвонай Арміяй, савецкі прадстаўнік у гарадской управе загадаў працаўнікам складаць спісы на беларускай мове для маючых адбыцца выбараў у Народны сход Заходняй Беларусі. І такія спісы на беларускай мове складаліся. Але ў сярэдзіне першай дэкады кастрычніка 1939 г. (а ў гэты час у Маскве вяліся перагаворы паміж урадамі СССР і Літоўскай рэспублікі аб падпісанні савецка-літоўскага пакту аб узаемнай дапамозе) было загадана складанне спісаў спыніць. Савецка-літоўскі дагавор быў падпісаны 10 кастрычніка 1939 г. СССР аддаваў Вільню і Віленскі край Літве (па дагавору 12 ліпеня 1920 г. РСФСР таксама аддала Вільню Літве). Такім чынам, трэба зрабіць выснову, што спачатку меркавалася ўключыць Вільню і яе акругу ў агульны працэс выбараў у Народны сход Заходняй Беларусі з наступным далучэннем да БССР. Але паколькі трэба было пайсці на ўступкі літоўскаму ураду (ён апошні з урадаў незалежных прыбалтыйскіх рэспублік падпісаў такі дагавор), то Вільня стала разменнай манетай у сталінскай міжнароднай палітыцы тагачаснага Савецкага Саюза.

**А. П. ГРЫЦКЕВІЧ — Старшыня Мінскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, доктар гістарычных навук, прафесар.**

## З лякарні спадара Алеся

### АСТМА

1. Пры бранхіяльнай астме прымаюць па 15 кропляў 3 разы на дзень настой з блюшчыку плюшчападобнага. 15 грамаў лісця на 100 грамаў спірту.

2. Пры бранхіяльнай астме (а таксама кашлі) піць па паўшклянкі 5—10 разоў на дзень гарбату з багуну. Заварыць 25 грамаў галінак багуну адным літрам вару. Піць на працягу двух тыдняў. Пры зборы багуну трэба зрываць вярхі маладых парасткаў.

3. Пры бранхіяльнай астме (а таксама пры бранхіце) можна сушыць лісце малачаю лознага і курыць яго.

4. На шклянку кіпячонага вельмі цёплага малака ўсыпаць крыху праполісу. Выпіць нанач (можна ўжываць тры разы на дзень). Вельмі добра здымае задышку.

*(Запісана ад Івана Халімона з вёскі Красная Цецяроўскага с. с., Берастаўіцкага раёна).*

5. Пры бранхіяльнай астме добрыя вынікі дае наступны народны лек. Насенне канопляў (10 грамаў) здрабніць. Кінуць у шклянку малака, пракіпяціць. Потым працадзіць, густую масу выціснуць. Патрыманы настой піць па некалькі разоў на дзень.

6. Карэнне малінаў звычайных трэба збіраць у часе цвіцення малінаў або позняю восенню. Сабранае карэнне памыць і сушыць у цяньку. Адвар рыхтаваць наступным чынам: 50 грамаў карэння заліць паловай літра вады, кіпяціць на малым агні 30—40 хвілін.

7. Ад бранхіяльнай астмы (а таксама ад бранхіту) ужываюць чартапалох звычайны. Лісце згаданай расліны сабраць і высушыць. У часе прыступаў лісце стаўчы на парашок, адну чайную лыжку парашку размяшаць у палове шклянкі вады і выпіць.

8. Праполісу — 20 грамаў, спірту — 80 грамаў. Змяшаць, паставіць у цёмнае месца на 5—6 дзён. Прымаць па 30 кропель раз на дзень.

9. Шклянку маркоўнага соку, шклянку бурачнага соку, шклянку альясу (які расце больш за тры гады — тыдзень або 5 дзён да таго, як зрэзаць, альяс нельга паліваць), шклянку мёду, шклянку гарэлкі змяшаць у слоіку. Слоік паставіць на некалькі дзён у халаднаватае цёмнае месца. Піць па адной сталовай лыжцы адзін раз на дзень цэлы месяц. Потым зрабіць перапынак на трыццаць дзён і зноў піць цэлы месяц па адной сталовай лыжцы ў дзень.

*(Даслала ў музей Раіса Адэкава з Хабараўска).*

10. Збіраць пялёсткі кветак дзіванны ў сухое надвор'е, як абсохне трава. Сушыць трэба хутка ў духоўцы. Нельга, каб пры сушцы пялёсткі страцілі свой залацісты колер. Шчыльна збіць у шкляны слоік. Слоік абгарнуць папераю, каб не траплялі на зёлкі сонечныя промні. Адну сталовую лыжку сухіх кветак на шклянку вару настойваць 20 хвілін. Піць па сталовай лыжцы 3 разы на дзень.

## У суполках ТБМ

### Заняткі пачаліся

Гэтай падзеі чакалі даўно многія прыхільнікі беларускай мовы і культуры Светлагорска. І вось невялікая ўтульная зала школы мастацтваў у святочным убранні. Тут і традыцыйныя элементы беларускай сімволікі, і эскізы гербаў Светлагорска, якія паступілі на абвешчаны конкурс, і беларускія перыядычныя выданні на спецыяльным стэндзе. А ў зале — больш як 60 слухачоў новага для горада народнага універсітэта беларускай гісторыі і культуры. З гэтай падзеяй прысутных павіншаваў старшыня Светлагорскай арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны І. Р. Катляроў. Затым выступіў кандыдат філалагічных навук кафедры беларускай мовы Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны Д. Д. Паўлавец. Тэма яго лекцыі — «Гісторыя развіцця беларускай мовы. Моўная палітыка ад старажытнасці да нашых дзён». Вельмі пераканаўча, на дакладных гістарычных фактах, праілюстраваў Дзмітрый Дзмітрыевіч шлях, якім ішла наша мова да нададзенага ёй нядаўна статуса дзяржаўнай.

Цікавы агляд публікацый беларускіх часопісаў, зыходзячы з тэмы заняткаў, зрабіла супрацоўніца цэнтральнай гарадской бібліятэкі Г. Я. Котава.

Член рады ТБМ настаўнік гісторыі СШ № 7 Т. В. Маслюкоў сказаў слова аб беларускай геральдыцы, пракаменціраваў эскізы гербаў, што былі прадстаўлены для азнаямлення.

У завяршэнне заняткаў выступіла аўтарка нататкаў і прачытала вянок санетаў, прысвечаных роднай мове.

Заняткі ў народным універсітэце беларускай гісторыі і культуры плануецца праводзіць штомесячна.

**Соф'я Шах,**
**член рады Светлагорскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.**

## Сумеснае пасяджэнне

◆◆◆

*«Вяртанне нацыі да сваёй мовы і літаратуры патрабуе стварыць Кнігу (зборны вобраз) нацыянальных пачаткаў, якая б грэла чалавека аж да скону».*
*(З даклада Алеся Яскевіча).*

◆◆◆

28 сакавіка ў памяшканні Дома літаратара адбылося сумеснае пасяджэнне рады Саюза пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства народнай адукацыі БССР на тэму: «Выкладанне беларускай мовы і літаратуры ў школе: стан, новыя падыходы і канцэпцыі».

З дакладам выступіў пісьменнік, кандыдат філалагічных навук Алесь Яскевіч. У спрэчках слова бралі намеснік міністра народнай адукацыі Людміла Сухнат, дырэктар інстытута педагогікі Міхась Лазарук, пісьменнікі — Барыс Сачанка, Анатоль Клышка, Алена Руцкая, Уладзімір Калеснік, Алег Лойка, Мікалай Грынчык, а таксама начальнік упраўлення дашкольнага выхавання Тамара Карасцялёва і галоўны рэдактар выдавецтва «Народная асвета» Віктар Жарыкаў.

Найбольш цікавыя выступленні рэдакцыя штотыднёвіка мяркуе надрукаваць у бліжэйшых нумарах.

Вёў пасяджэнне старшыня рады — Васіль Зуёнак.

Найбольш цікавыя выступленні рэдакцыя штотыднёвіка мяркуе надрукаваць у бліжэйшых нумарах.

**Р. Б.**

## І смех і грэх

### ЯК ТОЙ КАЗАЎ...

Экскурсавод-супермадэль у музеі народнага мастацтва тлумачыць наведвальнікам:

— Вось тут, візуальна, новая экспазіцыя. Як бачыце, вось, улічана кан'юнктура попыту. На ручніку, вось, у стылі рэтра — канцэптуальны беларускі арнамент. Гэты геаметрычны малюнак, вось, мае... апрыёры 70 арнаментальных адзінак. Раслінная, геаметрычная і зааморфная мовы арнамента сінкрэтычныя, вось...

— Завоськала, гэта, як той казаў. Візуальна. Канцэптуальна. Апрыёры... Не, каб знайсці, гэта, як той казаў, беларускае слоўца. Незацяганае, як той казаў, незашмальцаванае. Дзе ты бачыў! Паўлазілі, гэта, у культуру і жук і жаба, як той казаў.

— Няма дзіва, даражэнькі! Такая ў нас традыцыя, так сказаць.

### ПАЕХАЛІ!..

Заводаўпраўленне. На сценах — лозунгі, плакаты. На стэлажах — творы беларускіх пісьменнікаў, падшыўкі беларускіх газет. Па ўсім відаць, чакалі госця — карэспандэнта сталічнай газеты. Яго апякуе Элачка-беларусаведка — адказная за беларусізацыю на прадпрыемстве.

— Добрыя лозунгі вы тут павесілі: «Мова — душа народа», «Абавязак усіх — любіць і берагчы родную мову», «Жыве мова — жыве народ»...

— Ну.

— Я тут гаварыў з рабочымі, дык, аказваецца, беларусізацыя ў вас ідзе поўным ходам, ва ўсіх сферах жыцця калектыву?

— Ну...

— Хто б мог падумаць да перабудовы, што рабочая Скарынкіна, які звярнуўся ў прафсаюзны камітэт з заявай на беларускай мове, сустрэнуць з распасцёртымі абдымкамі!

— Ну?

— А ці праўда, што нядаўна да вас прыязджаў правяраючы з міністэрства пацікавіцца, як выконваецца Закон аб мовах?

— Ну??

— Вам пашанцавала, чуў, што ўсе адказныя работнікі, партыйныя і прафсаюзныя лідэры загаварылі на роднай мове.

— Ну???

— І ўсе пасяджэнні, нарады, сходы праводзяцца па-беларуску?

— Ну-у-у?!

— Кажуць, начальства так узлягло, што нават разгляд адміністрацыйных правапарушэнняў вядзе па-беларуску?

— Ну-у-у-у!?

— Нават у заводскай сталоўцы загучала беларускае слова...

— Ну!

— А ў дзіцячым садку пры вашым заводзе (якое шчасце!) выхаванне вядзецца на беларускай мове.

— Ну!!

— І заводская газета па-беларуску выходзіць, і тэксты афіцыйных аб'яў, афіш, рэкламаў выконваюцца на роднай мове. І нават маркіроўка тавараў, этыкеткі на іх, інструкцыі, як імі карыстацца,— у вас усё (другім бы прыклад узяць!) — на матчынай, роднай...

— Ну!!!

— Я ў захапленні! У вас такія паказчыкі па беларусізацыі, што, кажуць, Сам Старшыня віншаваў калектыў з датэрміновым выкананнем Закона? Прытым (які прагрэс!) — на чысцюткай беларускай мове!

— ???

Сітуацыі змадэлявала
Любоў ЛАМЕКА.

**Георгій ЮРЧАНКА**

Калі гэта было!..
Вішнёвая завея —
Душэўны крыгалом.
**Уладзімір МАЗГО**

*Нібы смалой гарачаю,*
*Пячэ тупы агонь.*
*Калісь — імгненні страчаны! —*
*Трымаў тваю далонь.*

*З паўночы сэрца раніцца*
*Ў парэчкавай журбе:*
*Ці адшукаю раніцу,*
*Якою стрэў цябе?*

*На мудрасць срэбралістую*
*Адважыў час пячаць.*
*Хачу з табой, іскрыстаю,*
*Па шчасце веславаць.*

*З пытаннямі няпростымі*
*Брыду ў тузе адзін...*
*Прайшло ад нашай ростані*
*Амаль што сем гадзін!..*

***Салаўіны санцавей***

Вясёлы гай і луг вясёлы:
Вясна зялёная прыйшла.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І ўсюды цвітуць, дзе ні глянь,
Мядункі,
Званочкі,
Фіялкі.
**Віктар ГАРДЗЕЙ**

*Рада любая старонка,*
*Што вясна прыйшла няўзнак.*
*Ручаёк булькоча звонка,*
*Размываючы бальшак.*

*Весяляцца шумна дзеткі,*
*Лужай гоняць карабель.*
*Вунь ляціць пчала на кветку,*
*А за ёю мудры чмель.*

*У зялёную лістоту*
*Апрануліся гаі.*
*З панадрэчкавай кустоты*
*Сыплюць трэлі салаўі.*

*Санцавейнымі дзынькамі*
*Гэтак хораша наўкруг.*
*Трапяткімі дыванамі*
*Бездакорна ўсланы луг.*

*Як зірну на незабудкі,—*
*Дзе тут, братачкі, стрываць!*
*Далібог, гатоў за суткі*
*Ўсю вясну зарыфмаваць.*

## АБ'ЯВЫ

### Паважаныя чытачы «Нашага слова»!

Нагадваем тым, хто не падпісаўся на газету Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, што гэта вы можаце зрабіць у арганізацыях «Саюздруку» або ў любым аддзяленні сувязі СССР. Падпісацца можна на астатнія месяцы 1991 года. Індэкс выдання 74975. Кошт аднаго нумара па падпісцы — 5 капеек.

Выпісвайце і чытайце «Наша слова»! Дасылайце на адрас рэдакцыі допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з адраджэннем беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны.

### РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

Выходзіць з друку «Руска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй В. Ластоўскага.

Слоўнік можна будзе набыць у кіёску Таварыства беларускай мовы (Ленінскі пр-кт, 18), «Кнігарні пісьменніка».

Папярэдні кошт 5 рублёў.

Даведкі па тэлефоне 33-25-11.

### ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Паведамляем, што Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэтаў, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, установ, арганізацый і прыватных асобаў як на Беларусі, так і ў СССР, і за мяжой.

Наш цэнтральны рахунак 700510 у Белжылсацбанку.

Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку СССР.




Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефоны рэдакцыі: 37-17-83, 33-25-11.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.714 паасобнікаў. Заказ 2437. Індэкс 74975.